

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

№ 40 (121). 30 верасня — 6 кастрычніка 1999г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 30.000 руб.

## ПЕРАМАГЛІ СЛОНІМСКІЯ ГВАРДЗЕЙЦЫ



На Абуз-Лясноўскім палігоне пад Баранавічамі прайшлі каманднa-штабныя вучэнні войск 28-га армейскага корпуса, з удзелам Слонімскай механізаванай брыгады. Асаблівасцю гэтых вучэнняў стала вядзенне "баявых дзеянняў" з баявой стральбой. У гісторыі ўзброеных сілаў незалежнай Беларусі падобнае тактычнае вучэнне праводзілася ўпершыню.

Працяг на стар.4

## СВОДИМ КОНЦЫ С КОНЦАМИ

**В сентябре нынешнего года Научно-исследовательский экономический институт Министерства экономики Беларуси провел очередное общенациональное социологическое исследование по изучению экономических условий жизни граждан.**

1100 представителям различных социально-демографических групп взрослого населения страны предлагалось оценить перспективы роста цен, материального положения и других сторон своей жизни.

По словам заведующего сектором экономической социологии института Игоря Желткова, 83 процента опрошенных в ближайшие полгода ожидают дальнейшего роста цен. При этом 35% считают, что рост цен будет еще интенсивнее. 42% респондентов прогнозируют такой же темп, как сейчас, а 6% – ожидают более медленного роста цен. 3% опрошенных надеются на их стабилизацию, и только 1% респондентов надеется на незначительное снижение цен в течение ближайшего полугодия. 13% затруднились ответить на вопрос.

На предложение социологов оценить финансовое положение своих семей около половины (46%) респондентов ответили, что им "едва удается сводить концы с концами", 7% сообщили, что "залезли в долги", а 9% – "вынуждены использовать свои сбережения". Вместе с тем, 23% респондентов удается "немного" откладывать, 2% откладывают "много" денег. У остальных опрошенных (13%) ответ на предложенный вопрос вызвал затруднения.

Наталья ФУРСОВА

## Виктор Гончар: "СИТУАЦИЯ В БЕЛАРУСИ МОЖЕТ СТАТЬ НЕКОНТРОЛИРУЕМОЙ"

**Фрагменты аналитической записки, сделанной Виктором Гончаром незадолго до исчезновения, опубликованной в газете "Время МН" 22.09.99г.**

### Настроения элиты

Директоров государственных предприятий, владельцев частных фирм и предпринимателей не устраивают постоянное ухудшение условий их деятельности, неразбериха с финансами, фискальная хозяйственная политика, введение все больших ограничений в валютной сфере. Кроме того, их раздражает очевидная некомпетентность некоторых ставленников Лукашенко (председатель Нацбанка Петр Прокопович, первый вице-премьер Василий Долголев, министр предпринимательства Александр Сазонов и т.д.). Не в пользу Лукашенко складываются настроения и во властных структурах. Практикуемые им угрозы, публичные оскорбления, заключения под стражу высокопоставленных чиновников, а также исчезновение министра внутренних дел Юрия Захаренко и председателя Нацбанка Тамары Винниковой лишают номенклатуру гарантий безопасности. Неуверенность в завтрашнем дне вынуждает аппаратчиков искать пути изменения сложившейся ситуации, в том числе связанные с заменой главы государства. У чиновников вызывает недовольство неоправданно конфликтная внешнеполитическая линия Лукашенко, из-за чего они не могут получить визы для въезда в США и большинство государств Европы.

Ближайшее окружение президента весьма разнородно. Это глава администрации Михаил Мясникович, для Лукашенко человек чужой, удерживаемый откровенным шантажом, но обладающий реальным авторитетом у номенклатуры и прочными московскими связями. К наиболее доверенным лицам относятся вице-спикер Палаты представителей Василий Коноплев и председатель Национальной телерадиокомпании Григорий Кисель. Самой надежной опорой является госсекретарь Совбеза Виктор Шейман и управделами Иван Титенков, но авторитет последнего в глазах Лукашенко подорван не без участия первого. Они представляют два разных клана, враждующих из-за сфер влияния. В принципе "соратники" Александра Лукашенко готовы его сдать, но не предпринимают никаких шагов, опасаясь за себя с приходом к власти новых сил.

Продолжение на стр. 2

## НАВІНЫ

### Доллар вновь потяжелел

**На прошедшей неделе курс доллара США к белорусскому рублю вырос на большинстве сегментов валютного рынка страны.**

Лидером роста стал курс доллара к рублю на "черном" рынке наличной валюты – 6,2% (с 480.000-485.000 до 500.000-515.000 рублей при покупке, с 490.000-495.000 до 525.000-530.000 рублей при продаже). Столь заметное увеличение котировок произошло вслед за сообщением о повышении с 1 октября размера минимальной зарплаты.

### Предприниматели солидарны с рабочими

**Объединенный комитет профсоюза предпринимателей Минска и Минской области "Садружнасць" поддержит акцию протеста Федерации профсоюзов белорусской, которая запланирована на 30 сентября.**

"Профсоюз предпринимателей считает, что во время катастрофического падения уровня жизни индивидуальные предприниматели Республики Беларусь обязаны поддержать акцию рабочих, поскольку доходность деятельности предпринимателей зависит в первую очередь от экономического благосостояния населения республики в целом и, в первую очередь, от уровня жизни рабочих, врачей, учителей и служащих", – говорится в заявлении "Садружнасць".

Наталья КУЛАГИНА

### Наш минимум — 12.000.000

**Более восьми триллионов рублей в месяц дополнительных расходов госбюджета потребует объявленное с 1 октября увеличение размера минимальной заработной платы и тарифных ставок для работников бюджетной сферы.**

Об этом сообщил заместитель министра финансов Беларуси Анатолий Сверж 27 сентября на заседании "круглого стола", посвященном развитию социального партнерства в современных экономических условиях.

По его словам, правительство не удовлетворено существующим уровнем оплаты труда: официальный прожиточный минимум на одного человека в месяц превышает 12 миллионов рублей, минимальный потребительский бюджет составляет более 18 миллионов рублей, а средняя зарплата в непроизводственной сфере равна 16 миллионам рублей.

Дмитрий ВЛАСОВ

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

### УСЕ НА БАРАЦЬБУ З ПУСТАЗЕЛЛЕМ

**На апошнім пасяджэнні райвыканкама "адзначалася, што ў саўгасе "Маладая гвардыя" маюць месца факты, калі ўчасткі ўрадлівых зямель зараслі пустазеллем.**

**Дырэкцыі саўгаса прапанавана да першага чэрвеня 2000 года забяспечыць поўнае выкарыстанне ворнай зямлі, што знаходзіцца на яго балансе. Для гэтага трэба лепш выкарыстоўваць *меліяраваныя* землі і змагацца з пустазеллем на палях".**

*"Слонімскі веснік" № 117 ад 28.09.1999*

## ЗДАРЭННІ

### Нашы разбіліся каля Масквы

**Два слонімскія мікраўтобусы 18 верасня, недаязджаючы 50 кіламетраў да Масквы, трапілі ў аварыю.**

Рухаючыся па мінскаму шасэ, першая аўтамашына нечакана заехала пад прычэп КАМАЗа, а другая, якая ехала следам, сутыкнулася з першаю. У выніку пацярпелі 15 чалавек, з якіх вадзіцель першага мікраўтобуса Лукашык памёр на месцы здарэння.

Прадстаўнікі расійскага міністэрства па надзвычайным сітуацыям дзейнічалі хутка і аператыўна. Усіх, хто пацярпеў, развозілі ў Галіцынскую, Адзінцоўскую і Нікольскую бальніцы Маскоўскай вобласці. Там слонімцам аказалі медыцынскую дапамогу. Праўда, у многіх нашых землякоў патрабавалі страхоўкі (медыцына ў Расіі платная), якіх, вядома, у нашых людзей не было. Дактары выказалі незадаволенасць гэтым, але тым не менш дапамагалі пацярпеўшым. Некаторыя слонімцы да сённяшняга дня знаходзяцца ў расійскіх клініках, а тыя, хто пацярпеў менш, вярнуліся дамоў.

### У суседкі бульба смачнейшая

**Вяскоўцы-суседзі Ш. і П. з Дзярэчына Зэльвенскага раёна выкапалі на сваіх сотках бульбу, але прывесці дамоў не змаглі, бо не было чым.**

"Няхай паначуе, заўтра прывязем", – вырашылі яны. Калі наступіла ноч, спадар Ш. паехаў на поле і перавёз дахаты ўсе суседкіны мяхі з бульбай, а свае не чапаў.

Раніцай жанчына ўбачыла, што няма яе бульбы. Хутка выклікала ўчастковага інспектара, які вылічыў злодзея-суседа.

Сяргей ЧЫГРЫН

### Слонімскія пажары

**За апошні час колькасць пажараў у горадзе і раёне не змяншаецца.**

У вёсках, як правіла, гараць хлявы. Так было ў Куцейках і Сяргеевічах. У адным выпадку прычынай пажару стала трава, якую палілі каля хлява, а ў іншым – замыканне электраправодкі. Гарэў хлеў і ў Слоніме на Заграднай вуліцы. Там прычынай пажару было неасцярожнае абыходжанне з агнём.

Пажар здарыўся на вуліцы Касманаўтаў у інтэрнаце мэблевай фабрыкі. Сяргей А., які быў на падпітку, курыў у сваім пакоі. Ад непатушанай ім цыгарэты ўзнік пажар. Страты склалі 565 тысяч рублёў. Апоўначы, 26 верасня, гарэла прыватная лазня на вуліцы Міцкевіча. Агнём быў знішчаны дах будынка. А ўначы 27 верасня згарэў дах і ў жылым будынку па Паўднёвай вуліцы.

Алег ТАЧОНЫ

### Пажар пасля свята

**20 верасня пасля таго, як работнікі АТ "Мастоўдрэў" адзначылі свята "Дзень працаўніка леса" адбылося надзвычайнае здарэнне.**

У цэху гарача-клееных дэталяў узнік пажар. У выніку якога было пашкоджана абсталяванне, а таксама гатовая прадукцыя. Некалькі дзён цэх не працаваў. Дарэчы, гэта другі пажар у цэху прадпрыемства на працягу года.

Антон МАКЕЙ

### Детская преступность

**За восемь месяцев этого года подростками Гродненской области совершено 546 преступлений.**

Обеспокоенность вызывает рост хулиганства. За прошедшие месяцы на Гродненщине совершен 51 хулиганский поступок, что на 11 больше прошлогоднего. Среди районов "отличился" и Слонимский.

Об этом говорилось недавно на заседании областной комиссии по делам несовершеннолетних.

Михаил ОКУЛКО

ВЫСТАВА

# ТВОРЧАСЦЬ МАЙСТРА

**На мінулым тыдні адкрылася персанальная выстава слонімскага мастака Яўгена Іванова.**





Фота Мікалая СУПРУНА

*Яўген Іваноў*

У выставачнай зале слонімскага краязнаўчага музея прадстаўлена некалькі дзесяткаў жывапісных і графічных работ майстра. Дарэчы, некаторыя з іх ужо знаёмы нашым чытачам, бо друкаваліся на старонках "ГС" на працягу апошніх гадоў. Яўген Іваноў у сваім слове перад гасцямі выставы расказаў пра свой творчы лёс, пра тэматыку сваіх работ. У прыватнасці, адзначыў, што ён асабіста вельмі ўлюблёны ў слонімскую зямлю, у Альбярцін, і гэтае сваё пачуццё імкнецца выказаць у жывапісе.

Выстава будзе дзейнічаць на працягу месяца.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ

## "Сэрцам роднага слова краніся"

**Так называецца новая хрэстаматыя для вучняў старэйшых класаў, якая нядаўна пабачыла свет у мінскім выдавецтве "Народная асвета".**

У яе ўвайшлі вершы беларускіх паэтаў і паэтаў суседніх народаў, прысвечаныя нашай роднай мове.

Сярод аўтараў кнігі ёсць і нашы землякі: Алег Лойка, Анатоль Іверс, Мікола Арочка, Сяргей Чыгрын, Васіль Супрун і Ірына Войтка.

Хрэстаматыя "Сэрцам роднага слова краніся" ужо паступіла ў школьныя бібліятэкі Слонімшчыны.

**Наталля ФУРСАВА**

## Новая партия

**IV съезд БНФ, проходивший в Минске 26 сентября, завершился поздно вечером выборами руководства вновь созданной организации — Консервативно-христианской партии Белорусского народного фронта.**

Председателем партии единогласно (131 голосов "за", 0 – "против") избран Зенон Позняк. По его предложению заместителями председателя избраны Николай Анципович, Юрий Беленький, Сергей Попков, Владимир Старченко. Избран также сойм в составе 45 человек. В него вошли такие известные белорусские писатели, как Василь Быков и Рыгор Бородулин.

**БелаПАН**

## Ці дапамогуць?

**У пенсіянера К., які жыве ў вёсцы Рудаўка калгаса імя Дзяржынскага, на мінулым тыдні калгасныя каровы з'елі капусту, буракі і моркву.**

Адным словам, усю тую агародніну, якую вясковец вясной і летам старанна дагдядаў. Агарод, на якім паласаваліся калгасныя рагулі, стаў нібы асфальт.

Усхваляваны і збянтэжаны пенсіянер звярнуўся да старшыні калгаса Шмігіры з патрабаваннем вярнуць страчаны ўраджай, але пэўнага адказу яшчэ не атрымаў.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

## Цэнтр для сям'і

**У Мастах пачаў працу першы ў вобласці тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей "Откровение".**

Яго адкрыццё адбылося падчас абласнога семінара па сацыяльнай сферы. У працы семінара прынялі ўдзел намеснік старшыні аблвыканкама Марыя Бірукова. Акрамя цэнтра ўдзельнікі мерапрыемства пабывалі ў Курылавіцкім доме "Ветэран", наведалі АТ "Мастоўдрэў". Затым госці наведалі вёскі Гудзевічы і Дубна.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

Виктор Гончар:

# "СИТУАЦИЯ В БЕЛАРУСИ МОЖЕТ СТАТЬ НЕКОНТРОЛИРУЕМОЙ"

### Возможности оппозиции

Белорусская оппозиция слаба, раздробленна, пользуется ограниченной поддержкой в обществе (суммарный рейтинг политических партий по результатам социологических опросов, как правило, не превышает 10-12%) и не готова к приходу к власти.

Верховный Совет 13-го созыва после объявленного президентом роспуска в ноябре 1996 года утратил значительную часть членов, перешедших в назначенное Лукашенко Национальное собрание. Тем не менее именно ВС признают международные организации в качестве легитимного парламента. В Верховном Совете в настоящее время активно работают около 40 депутатов, однако есть перспектива их пополнения как за счет тех, кто остался не у дел (примерно 30 человек), так и потенциальных перебежчиков из самого Национального собрания. Без поддержки извне ВС не в состоянии кардинальным образом влиять на ситуацию. Но все же есть основания предположить, что ВС может сыграть стержневую роль в объединении антилукашенковских сил...

Так называемые лидеры белорусской демократии – это в основном люди, обиженные изгнанием из номенклатуры, преимущественно пенсионного возраста (Станислав Шушкевич, Мечислав Гриб, Станислав Богданкевич, Семен Шарецкий). Они больше склонны к междуусобным разборкам, чем к серьезной борьбе за власть. Могут быть использованы лишь в качестве символов, причем с отрицательным знаком... Небольшую роль играют и "беспартийные" политики, пользующиеся определенным авторитетом в номенклатурной среде (бывший премьер Михаил Чигирь, в настоящее время арестованный под предлогом обвинения в хищениях, и бывший исполсек СНГ Иван Коротченя). Первый лишен харизматичности и вызывает у общественности лишь сострадание. Второй, внешне весьма благополучный, располагающий к себе и обладающий разветвленными связями с руководителями России и государств СНГ, слишком компромиссен, бесконфликтен и не принял окончательного решения, к какому лагерю примкнуть...

### Перспективы развития событий

...Любые официальные выборы при нахождении Лукашенко у власти не дают никаких шансов иным кандидатам. Возможности разобщенной оппозиции, к тому же не имеющей доступа к электронным СМИ, ничтожны в сравнении с возможностями исполнительной "вертикали", которая под нажимом сверху пойдет на любые фальсификации. Это неизбежно приведет к окончательному разложению "вертикали", развалу и уничтожению экономики, кризису власти, полной неуправляемости.

Исходя из этого нельзя исключить вероятность, что Александр Лукашенко может быть отрешен от власти аппаратным путем. В этом случае власть переходит к Верховному Совету, пополненному значительным числом его членов из Национального собрания, и немедленным объявлением президентских выборов, которые, согласно Конституции, должны состояться в трехмесячный срок.

Такое развитие событий возможно при следующих обстоятельствах:

– одна часть окружения руководителя Беларуси (Мясникович, Сиваков, Мацкевич) получит прямые установки на сей счет из Москвы;

– другой части (Шейман, Коноплев, Кисель) будут предоставлены гарантии безопасности и личной устроенности (маловероятно, что кто-то из нынешних соратников Лукашенко, узнав, что он лишился поддержки Москвы, рискнет остаться на его стороне);

– действия легитимного ВС будут поддержаны электронными СМИ, в том числе и российскими;

– в столице и областных центрах немедленно пройдут организованные оппозицией с помощью СМИ массовые акции поддержки.

В настоящее время рейтинги всех действующих политиков крайне низки, а напряженные отношения между оппозиционными лидерами не позволят им выдвинуть единого кандидата. Поэтому наиболее вероятна победа на выборах нового президента фигуры, которая будет лояльна к силам, отстранившим Лукашенко от власти, и которую поддержат руководство России и международные организации.

ИСПОВЕДЬ БЫВШЕЙ УЧЕНИЦЫ

# СПАСИБО ТЕБЕ, УЧИТЕЛЬ!

В юные годы мы никогда не задумывались над тем, что когда-нибудь будем жалеть о счастливом школьном времени.

Теперь, через несколько лет после окончания школы, вспоминаешь те годы с грустью и сожалением. С грустью от того, что больше никогда уже не вернешься в то счастливое время. Школа – это особенный мир, со своими радостями и горестями, законами и порядками. Мы – ученики, возможно, воспринимали учителя как деспота, варвара, безжалостного и бессердечного человека, который стремился как можно больнее и обиднее нас достать. Как мы ненавидели огромные домашние задания по математике, химии, физике, истории или литературе. Как мучительно долго тянулось время на уроке и мгновенно пролетало оно на перемене. Как боялись мы выходить к доске или писать контрольные работы, сдавать зачеты и лабораторные работы. Как было стыдно, что не знаешь ответа на вопрос учителя и он вежливо (а нам и тогда казалось – с издевкой) просил принести дневник и выводил каллиграфическим почерком двойку. А потом на перемене ты возмущенно высказывал свои обиды друзьям и подругам.

У каждого из нас навсегда останутся в памяти те последние два года старших классов, когда мы, уже взрослые, почти самостоятельные люди, начинали понимать некоторые вещи. Например, что такое любовь, привязанность, настоящая дружба. Именно это время стало для нас самым веселым, когда все были дружны, делали все сообща, радовались и огорчались вместе со своими одноклассниками. Уже в десятом-одиннадцатом классах мы стали понимать, что многие наши учителя всегда старались только во имя нас и во благо нам, были внимательны и строги, требовательны и снисходительны одновременно. Они не только учили нас математике или истории, но и пытались наделить нас какими-то моральными ценностями. Другое дело, как это воспринималось нами.

Сегодня, спустя несколько лет после школы, иногда находит грусть. Хочется вернуться в то время, собраться всем вместе, собрать наших учителей и снова стать учеником, школьником... Хочется получить домашнее задание по физике и литературе, выучить его на отлично. Хочется получить хорошую оценку и от всей души сказать учителю: "Спасибо!".

**Елена СИНЯК**

ЭКОНОМИКА

# СПАД

**В нынешнем году валовой сбор зерна в весе после доработки во всех категориях хозяйств Беларуси составит, по оценке Министерства статистики и анализа, 3,6-3,7 миллиона тонн. Это на 25% меньше прошлогоднего уровня.**

С одного гектара уборочной площади в среднем собрано по 17,2 центнера зерна – на 5,6 центнера ниже, чем в 1998 году. Особенно низкая урожайность – на Могилевщине (14,9) и Витебщине (13,3 центнера с гектара). По словам вице-премьера Александра Попкова, Беларусь будет вынуждена импортировать около 1,5 миллиона тонн зерна, в том числе 500 тысяч тонн – продовольственного.

Госзаказ по льнопродукции на начало сентября колхозами и совхозами выполнен на 19%. По состоянию на 13 сентября, картофель был убран с 20% площадей, другие овощи – с 19%. Урожайность по ним тоже значительно ниже прошлогодней (по картофелю – 112 центнеров с гектара в 1999 году против 145 в 1998-м, по другим овощам – 74 центнера с гектара против 96).

На 13 сентября было заготовлено 4 018,8 тысячи тонн кормов, – на 22% меньше, чем в 1998 году. В связи с этим специалисты прогнозируют дальнейший спад в животноводстве. В сельскохозяйственных предприятиях продолжается сокращение поголовья скота (крупного рогатого за год поубавилось на 6%, свиней – на 3%).

А.Попков считает 1999 год самым сложным для отечественного сельского хозяйства в новейшей истории страны. Спад в сельском хозяйстве Беларуси наблюдается уже третий год подряд, несмотря на значительную финансовую поддержку агрокомплекса со стороны государства. По данным из правительства, в нынешнем году субсидии сельскому хозяйству составили примерно 60 триллионов рублей.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 28 верасня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7200 экз.
Заказ № 2531
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

ВЫХАВАННЕ

# ПАСАЖЫРКА З ДЗЕЦЬМІ

**Жыццё маё складваецца так, што ўжо даўно, па нядзелях, я езджу аўтобусам Слонім-Дзярэчын, які выходзіць з вакзала ў 14.30.**

І кожны раз гэтым жа аўтобусам едзе адна жанчына са сваімі дзеткамі: дачушкай 12-13 гадоў і яе малодшым брацікам. Выходзяць яны звычайна на прыпынку ў вёсцы Ганькі, а далей ідуць пешшу ў Хадзявічы.

Жанчына яшчэ маладая, але заўсёды незадаволеная і сярдзітая. Вылічыць кабету зусім лёгка. А "знакамітасць" яе ў тым, што на вакзале яе паслухмяныя і вытрыманыя дзеткі займаюць звычайна месца ў аўтобусе адразу ж за вадзіцелем (яны ніколі не сталі ў праходзе). Там жа "прызямляецца" і маці. І ніхто ніколі не зможа ўжо заняць іх месцы!

Нават, калі побач з гэтай сямейкай будзе стаяць ветэран вайны ці бабулька-інвалід, ці чалавек страціўшы прытомнасць, ці калі пасажыры на чале з вадзіцелем будуць патрабаваць уступіць месца пажылому чалавеку, як гэта адбылося 12 верасня. Дарэмна!

Дачушка і сынок будуць моўчкі глядзець у вочы тым, хто іх ушчувае. А маці ў гэты час будзе глядзець перад сабой і рабіць выгляд, што гаворка ідзе не пра яе.

Аднойчы адна бабулька выпадкова штурхнула гэтую жанчыну. Ой, што было... Які лямант падняла яна. Здзіўляюся, колькі злосці ў гэтай кабеты! Дзе яна яе набрала?!

Праз няпоўных 10 хвілін яны нарэшце выходзяць. Многія пасажыры ўздыхаюць з палёгкай.

Няцяжка ўявіць сабе, якімі людзьмі стануць гэтыя дзеткі. Няўжо матуля не бачыць, каго яна выхоўвае і які прыклад падае? Няўжо яна забылася, што і сама будзе калісьці старэнькай бабулькай? І будзе першай, хто адчуе на сабе вынікі свайго ж выхавання?! Калі так, то мне яе вельмі-вельмі шкада і дзетак таксама.

А яшчэ, не вельмі прыемна мець такіх спадарожнікаў.

**Генадзь ПАШКО**

ФОТАІМГНЕННЕ


Фота Мікалая СУПРУНА

*Махнем кавуны на бульбу?..*

НАВІНЫ

## Музычная школа памяняла назву

**Дзятлаўская музычная школа з нядаўняга часу называецца дзяржаўнай дзіцячай школай мастацтваў.**

Акрамя музычных класаў адкрыта мастацкае аддзяленне, дзе дзеці вучацца маляваць, знаёмяцца з гісторыяй мастацтва, авалодваюць практычнымі навыкамі. З цягам часу мяркуюць адчыніць і харэаграфічнае аддзяленне.

## Залезлі ў склад

**У калгасе "Расія" Дзятлаўскага раёна на розных сельскагаспадарчых работах працуюць асуджаныя з калоніі, якая знаходзіцца ў пасёлку Гезгалы.**

Восеньскай ноччу памочнічкі залезлі ў калгасны склад, што ў вёсцы Пеньчыцы, і ўкралі 68 кілаграмаў мяса. Узбуджана крымінальная справа.

## Віно не прадаецца

**Выпівохі з гарадскога пасёлка Казлоўшчына, што ў Дзятлаўскім раёне, засумавалі.**

Падпольная гандлёвая кропка, дзе ў любы час сутак можна было купіць віно, зачынілася. Грамадзянін Л., якому яна належыла, асуджаны на 2 гады выпраўленчых работ.

## А далярчыкі былі фальшывыя

**Жыхар Дзятлава Н. прадаў 50 фальшывых даляраў ЗША грамадзянцы Аўсянік з вёскі Дварэц.**

За гэта суд пазбавіў яго волі на пяць гадоў. Грамадзянка Аўсянік мела 150 фальшывых даляраў ЗША, 100 з іх прадала кабеце з суседняй вёскі Азяраны, за што атрымала два гады ўмоўна.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**У Дзятлаўскім раёне, бадай, няма жанчыны, якая б не ведала Людмілу Паўлаўну Крынчык.**

# ЗАЛАТАЯ ДУША

І такая папулярнасць тлумачыцца проста, Людміла Паўлаўна — гінеколаг. Ужо дваццаць гадоў мінула з таго часу, як яна пасля заканчэння медыцынскага інстытута прыехала да нас працаваць. Літаральна з першых дзён прыйшлася па душы як калегам, так і сваім шматлікім пацыенткам. Акрамя таго, што з'яўляецца выдатным спецыялістам, яна вельмі абаяльная і мілая, прыгожая і спагадлівая. Калі ўсміхаецца Людміла Паўлаўна, то здаецца, што з-за хмар выглядвае сонейка, калі яна гаворыць сваім лагодным ласкавым галасам, то на сэрца сыходзіць спакой.


Фота Мікалая СУПРУНА

*Людміла Крынчык*

Яна прыехала да нас маладой дзяўчынай. Тут выйшла замуж, нарадзіла двух слаўных сыночкаў. Тут яна перажыла вялікае гора: трагічна загінуў малады муж, пакінуўшы яе ўдавой, а дзяцей сіротамі. Але жыццёвыя нягоды не зламалі нашу добрую Людмілу Паўлаўну. Яна засталася па-ранейшаму ласкавай і добрай у адносінах да людзей, такой жа спагадлівай і чулай.

Цяпер Людміла Паўлаўна працуе загадчыцай аддзялення Дзятлаўскай раённай бальніцы. Робіць усё магчымае дзеля таго, каб пацыенткі адчувалі сябе камфортна і ўпэўнена, каб на свет з'яўляліся здаровыя і моцныя немаўляты.

У радзільным аддзяленні пануе ўзорная чысціня і парадак. Тут працуе зладжаны калектыў. Ды інакш і быць не можа, бо пры такім кіраўніку як Людміла Паўлаўна, нельга працаваць абы як, нельга быць чэрствым і жорсткім, калі загадчыца аддзялення служыць для ўсіх прыкладам гуманізму і дабрыні.

А якая яна цудоўная гаспадыня! У кватэры заўсёды чысціня і ўтульнасць. Людміла Паўлаўна ўмее і любіць гатаваць. Розныя стравы і выпечкі, зробленыя яе рукамі, выклікаюць вялікае захапленне яе сыноў. Дарэчы, яны для мамы — увесь сэнс зямнога існавання. Яна шчыра любіць сваіх хлопчыкаў, усё робіць дзеля таго, каб яны былі шчаслівыя. І дзеці плацяць ёй любоўю і павагай.

У Дзятлаве жыве свякроў гэтай слаўнай жанчыны. У іх не толькі што прыязныя, але па-сапраўднаму сваяцкія адносіны. І ў гэтым таксама Людміла Паўлаўна служыць добрым прыкладам для ўсіх дзятлаўскіх кабет.

Усе, хто хоць раз меў справу з Людмілай Крынчык як з урачом, як з чалавекам, кажуць, што ў яе залатая душа. Я таксама ўпэўнена ў гэтым. Мне вельмі хочацца, каб мая дачушка, якой яна некалі дапамагла з'явіцца на свет, была падобная на Людмілу Паўлаўну. Ва ўсім.

Людміла Крынчык родам са Слоніма. Землякі могуць ганарыцца ёй, як ганарымся ёй мы, дзятлаўчане.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

СПОВЕДЗЬ

# КАПАЙЦЕ САБЕ МАГІЛУ...

Я была на сёмым небе ад шчасця, калі нарадзіўся сынок. Дачушку ўжо мела, а тут Бог паслаў сыночка — памочніка мужу і ўцеху мне. Памятаю, як прарэзаўся ў яго першы зубок, як пачынаў ён хадзіць. Колькі слёз праліла над яго пасцелькай, калі нападалі хваробы. Ды што я кажу: кожнай маці гэта вядома.

Дзякуй Богу, вырас наш сакалік. Закончыў школу, пайшоў у армію, пасля службы ўладкаваўся працаваць. Незадоўга настаў і той дзень, калі наш Саша прывёў дадому сваю выбранніцу. Мне будучая нявестка спадабалася адразу: ветлівая, уважлівая. А як пажаніліся, то я палюбіла нашу Танечку як уласную дачку. І было за што. Я кожны дзень ездзіла на работу ажно за 25 кіламетраў. Дадому дабіралася позна, стомленая і з адной толькі думкай, каб хутчэй адпачыць. Прыязджаю, а нявестачка мяне ўжо ў дзвярах сустракае:

—Мама, паешце, я толькі што вячэру зварыла.

Як хораша, як цёпла было ў мяне на душы ў той час! І з Сашам яны ладзілі. Толькі вось Бог дзетак не даваў. Ды маладыя ж яшчэ, што тут асабліва перажываць.

А праз год пасля іхняй жаніцьбы здарылася вялікая бяда: наша Танечка захварэла. Ды так моцна, што не дапамагалі, як кажуць, ні дактары, ні знахары. Куды мы толькі яе не вазілі, дзе не лячылі — карысці ніякай.

І тут мой сынок павёў сябе не лепшым чынам. Вёска наша невялікая, ад людзей не схаваешся. І вось пачалі мне казаць, што завёў ён сабе каханку. Ды не каго-небудзь, а жонку лепшага сябра. Мы з мужам усяляк угаворвалі сына, прасілі адумацца, пашкадаваць жонку, бо ёй і так цяжка. Не, не паслухаўся...

Ад нявестачкі як маглі хавалі гэту брыдкую таямніцу. Але ж шыла ў мяшку не ўтоіш. Знайшліся дабрадзеі, якія пра ўсё ёй расказалі. Залілася бедная слязьмі і пачала збіраць свае рэчы. Я так прасіла яе застацца, абяцала, што буду рабіць усю хатнюю працу: прыбіраць і варыць, мыць бялізну, буду аддаваць ім большую частку сваёй зарплаты. Але ёй нічога было не міла, не магла даравацъ такой лютай здрады, калі муж пакінуў яе хворую і бездапаможную дзеля другой — здаровай і дужай.

Паехала наша Танечка жыць да сваёй маці. А неўзабаве сын, акурат перад Міжнародным жаночым днём, прыпаднёс мне падарунак: пасярод ночы прывёў у хату сваю новую выбранніцу. Пабудзіўшы нас з мужам, загадаў:

— Яна будзе тут гаспадыняй! І каб не пярэчылі, а то глядзіце ў мяне.

А на само свята 8 Сакавіка, калі да мяне ў госці прыйшла сястра, мой сын так павіншаваў нас, што сястра ледзь уцякла. А ў мяне ўцякаць не было сілы. Я глядзела на перакошаны злосцю сынаў твар, слухала брыдкія словы, што зляталі з яго вуснаў, і так горка і балюча было на душы, што хоць пайдзі і ўтапіся. Я не пазнавала свайго сына! Гэта было не маё дзіця!

Не хачу абараняць яго, але пазней зразумела, што новая жонка настройвае яго супраць нас. Хоць жылі яны ў другім канцы хаты, але нам з мужам месца не стала і на сваёй палавіне. Аднойчы сын так пабіў бацьку, што той атрымаў сатрасенне мозгу. Але ён не звяртаўся ні ў бальніцу, ні ў міліцыю. Шкадавалі, што пасадзяць нашага дамарослага дэбашыра ў турму. Можа і дарэмна шкадавалі.

Мой муж — інвалід другой групы. Сын і нявестка без усякага сораму абзываюць яго, здзекуюцца як толькі могуць.

—Нядоўга ўжо вам засталося жыць на гэтым свеце,— часта кажа нявестка.— Я не шкадую грошай, езджу да знахароў, каб вам што-небудзь зрабілася. Так што капайце сабе магілу.

Наш сын слухае ўсё гэта і хоць бы слова сказаў у абарону. Маўчыць, бо думае так, як і яна.

Дайшло да таго, што ў нашу хату не могуць зайсці ні дачка з зяцем, якія жывуць непадалёку, ні ўнук. Не тое, што ў будні, але і ў святы.

Разам з новай нявесткай у нашу хату прыйшоў жыць і яе непаўналетні сын. Як кажуць, яблык ад яблыні недалёка падае. Беднае дзіця таксама расце жорсткім і нявыхаваным. Аднойчы, калі мой сын мяне біў, хлопчык кажа:

—Не адпушчай яе, патрымай, я вазьму кія і выкалю ёй вочы...

Больш за ўсіх ад гэтых скандалаў пакутуе муж. Аднойчы нявестка распачала бойку і павырывала ў яго валасы.

У апошні час мае вочы не прасыхаюць ад слёз. Плачу, калі пазвоніць мая мілая, добрая Танюша, плачу, калі паб'е сын, абражае і крыўдзіць нявестка. Боль, крыўда і ганьба не даюць мне спакою ні днём, ні ноччу. Мы і наш сын з нявесткай сталі тэмай вясковых плётак. Людзі судзяць нас і абгаворваюць. Але што ты зробіш. Трэба цярпець. Але як цярпець?! І колькі?!

Некаторыя людзі, прачытаўшы маю горкую споведзь, скажуць:

—І на каго ты скардзішся, кабета? На сваё дзіця? Якога сына выхавала, такога і маеш.

Можа яно і так. Можа я штосьці недагледзела, чагосці не ўклала ў ягоную душу ў дзяцінстве, можа занадта любіла і шкадавала. Але як і кожная маці, я хацела свайму дзіцяці толькі дабра. Ды і цяпер не жадаю ні сыну, ні яго новай жонцы ніякага зла. Няхай жывуць шчасліва, няхай толькі не мучаюць нас.

Дзякуй усім добрым людзям, у каго хапіла цярпення прачытаць да канца маю споведзь. Вось падзялілася з вамі сваёй бядой і нейк лягчэй стала на душы. А можа і дзеці мае, прачытаўшы гэта, штосьці зразумеюць і па-іншаму паглядзяць на жыццё, на свае паводзіны. Дай ім Бог розуму і душэўнага прасвятлення.

**З павагай да ўсіх,
Аляксандра Мікалаеўна.**

# ПЕРАМАГЛІ СЛОНІМСКІЯ ГВАРДЗЕЙЦЫ



*Праваслаўны святар цікавіцца ходам баявых дзеянняў*

Чакалася, што 23 верасня на Абуз-Лясноўскім палігоне з'явіцца галоўнакамандуючы беларускага войска Аляксандр Лукашэнка. Аднак ён паляцеў у Маскву. Таму вышэйшымі афіцыйнымі асобамі на вучэннях былі старшыні Гродзенскага і Брэсцкага аблвыканкамаў. Прысутнічалі таксама і ваенныя аташэ з Францыі, ФРГ, ЗША, Польшчы, Кітая, Украіны, Фінляндыі, Нарвегіі, Швейцарыі, Румыніі, Пакістана, Перу і Расіі. Напэўна, ім было цікава пабачыць боездольнасць беларускай арміі.

На палігон былі сцягнуты ўнушальныя сілы: 42 танка, больш 30 БМП, 12 установак супрацьпаветранай абароны, 6 баявых машын "Град", артылерыя, усяго каля 6 тысяч вайскоўцаў.

Па ходу "боя" з праціўнікам (а ім была рэгулярная армія) слонімскія вайскоўцы трымалі абарону на дзвюх пазіцыях. Яны вытрымалі націск "ворага" і нанеслі яму "значныя страты" агнём з танкаў і БМП, пры падтрымцы артылерыі і авіяцыі. Атакі самалётаў Су-25, верталётаў Мі-24 уражвалі. У большасці выпадкаў яны дакладна "накрывалі" мішэні. Міністр абароны адзначыў дзеянні Слонімскай механізаванай брыгады. Яе вайскоўцы агнём з танкаў і БМП дакладна трапілі ў больш чым 70% мішэняў, тым самым атрымалі папярэднюю адзнаку "добра". І гэта пры тым, што "ваявала" шмат моладзі, якая была прызвана ў войска мінулым летам.



Па словах міністра абароны Беларусі генерал-палкоўніка Аляксандра Чумакова, асноўнай мэтай вучэнняў была праверка абучанасці вайскоўцаў, а таксама штабоў па кіраўніцтву падраздзяленнямі пры вядзенні баявых дзеянняў з баявой стральбой. Правяралася і ўзаемадзеянне мотастралковых падраздзяленняў з авіяцыяй і сіламі супрацьпаветранай абароны.



*Верталёты атакуюць пазіцыі "ворага"*

Атрымалася добра. Слонімская 11-я механізаваная брыгада запісала на свой рахунак першую перамогу ў максімальна набліжаным да сапраўднага "бою".

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**



*Міністр абароны генерал-палкоўнік А.Чумакоў*



# РОДНАЕ СЛОВА Ў ВОЙСКУ

Неяк, едучы ў гарадскім аўтобусе, пачуў дыялог двух старых людзей. "Якія зараз каманды ў беларускім войску? — спытаўся тутэйшы беларус. — Мабыць, цяпер кажуць "крокам руш"?! "Не, — кажа тутэйшы расіянін, — усё засталося, як і было — па-руску". "А чаму?". "Таму, што статуты не пераклалі на беларускую мову", — дадаў расіянін.

"Во, бяда, — думаю сабе, — не пераклалі вайсковых статутаў. Няўжо ўся праблема толькі ў гэтым?". За сем гадоў існавання войска незалежнай Беларусі не было зроблена элементарнага, не гаворачы ўжо пра больш сур'ёзныя рэформы! Вайскоўцы ў Беларусі, як гаварылі па-руску, так і гавораць. У гэтых адносінах вайсковы аддзел арміі РБ мала чым адрозніваецца ад якой небудзь разанскай або тамбоўскай часці...

Зразумела, што вайскоўцы невінаватыя. Армія — гэта строгі і кансерватыўны механізм, у якім у прынцыпе не можа быць ініцыятывы "знізу". Усе новаўвядзенні могуць прыходзіць толькі "зверху". А міністэрства абароны Беларусі, ва ўмовах існуючых сёння палітычных рэаліяў, зусім не спяшаецца "беларусізаваць" армію... Калісьці, на пачатку 1990-х гадоў, падобныя "гульні" з вывучэннем афіцэрамі беларускай мовы яшчэ дазваляліся. Сёння пра гэта амаль забыліся.

А, між іншым, нічога прыдумваць не трэба. Яшчэ ў 30-я гады ў БССР было выдадзена шмат вайсковай літаратуры на беларускай мове, якую цяпер трэба абнавіць. Існуюць і сучасныя напрацоўкі падпалкоўніка Станіслава Судніка. Напрыклад, два ягоных "расейска-беларускіх вайсковых слоўніка", выдадзеныя ў незалежных выдавецтвах. Час усё паставіць на свае месцы. Калісьці і ў беларускім войску загучыць роднае слова. А пакуль мы прапануем чытачам "ГС" урывак з "Расейска-беларускага вайсковага слоўніка" Станіслава Судніка і Сяргея Чыслава (Мінск, 1997).

**Сяргей ЁРШ**

## Каманды і камандныя словы

| | |
|---|---|
| Автоматы на – ГРУДЬ! | Аўтаматы на – ФРОНТ! |
| Автоматы на грудь, по разделениям, делай-РАЗ, делай-ДВА, делай-ТРИ! | Аўтаматы на фронт, па раздзелах, чынь-РАЗ, чынь-ДВА, чынь-ТРЫ! |
| БЕГОМ! | БЯГОМ! |
| Бегом-МАРШ! | Бягом-РУШ! |
| Взвод, в колонну по три, шагом – МАРШ! | Звяз, у калону па тры, крокам-РУШ! |
| Взвод, под Знамя-СМИРНО! | Звяз, на Штандар-ЗВАЖАЙ! |
| ВНИМАНИЕ! | УВАГА! |
| В одну шеренгу (В две шеренги)-СТАНОВИСЬ! | У адну шарэнгу (У дзве шарэнгі)-ЗБОРКА! |
| ВОЛЬНО! | СПАЧНІ! |
| ВПЕРЁД! | НАПЕРАД! |
| В РУЖЬЁ! | ЗА ЗБРОЮ! |
| ВСТАТЬ, СМИРНО! | УСТАЦЬ, ЗВАЖАЙ! |
| ВЫЙТИ ИЗ СТРОЯ! | ВЫЙСЦІ З ШЫХТУ! |
| Выйти из строя на три шага! | Выйсці з шыхту на тры крокі! |
| Два шага вперёд (назад), шагом-МАРШ! | Два крокі наперад (назад), крокам-РУШ! |
| ЕСТЬ! | РЭЙ! |
| ИДТИ В НОГУ! | РОЎНЫ КРОК! |
| Здравствуйте, товарищи! | Вітаю, спадарства! |
| КО МНЕ! | ДА МЯНЕ! |
| Кру-ГОМ! | Тыл-ФРОНТ! |
| Напра-ВО! | Права-ФРОНТ! |
| Нале-ВО! | Лева-ФРОНТ! |
| Никак нет! | НЕ! |
| ОТБОЙ! | АДБОЙ! |
| ОТСТАВИТЬ! | ЗВАРОТ! |
| ПОЛНЫЙ ШАГ! | ПОЎНЫ КРОК! |
| ПРЯМО! | НАЎПРОСТ! |
| РАВНЯЙСЬ! СМИРНО! | РАЎНУЙ! ЗВАЖАЙ! |
| СТАТЬ В СТРОЙ! | СТАЦЬ У ШЫХТ! |
| Стой! Кто идёт? | Стой! Хто ідзе? |
| Строевым шагом-МАРШ! | Вучэбным крокам-РУШ! |
| Товарищи офицеры! | Спадары афіцэры! |
| Товарищ полковник! Во время моего дежурства происшествий не случилось. Дежурный по полку майор... | Спадар палкоўнік! Падчас майго дзяжурства здарэнняў не адбылося. Дзяжурны па палку маёр... |
| УВЕЛИЧИТЬ ДИСТАНЦИЮ! | ПАВЯЛІЧЫЦЬ ВОДСТУП! |
| УРА! | РУБОН! |

## НОВОСТИ

### Анголе нужны белорусские самолеты

**Российские средства массовой информации полагают, что Беларусь может заключить с Анголой контракт на поставку в эту страну партии фронтовых бомбардировщиков Су-24.**

Такое предположение делает, в частности, газета "Независимое военное обозрение", основываясь на информации о том, что в настоящее время на 116-й бомбардировочной авиабазе белорусских Военно-воздушных сил, которая находится в поселке Россь Гродненской области, группа ангольских пилотов и техников осваивает этот тип самолетов.

Комментируя сообщение российской газеты, помощник министра обороны по вопросам военной политики генерал-майор Юрий Портнов, ведающий в военном ведомстве проблемами международного военного сотрудничества, заявил корреспонденту БелаПАН о том, что не имеет информации о нахождении в Беларуси ангольских авиационных специалистов. А начальник пресс-службы Министерства обороны полковник Леонид Прищепа отметил, что "военное ведомство не занимается продажей военной техники – это прерогатива государства".

### Танки с тепловизионными камерами

**В настоящее время с помощью предприятий "Пеленг" и "БелОМО" на белорусские танки и боевые машины пехоты устанавливаются тепловизионные камеры, усиливается броня.**

По словам заместителя министра обороны по вооружению генерал-майора Петра Рогожевского, во времена СССР Краснознаменный Белорусский военный округ считался танковым. Основной боевой машиной был и остается танк Т-72 различных модификаций: Т-72А, Т-72М и Т-72б; были и другие танки – например, Т-62, Т-54, Т-55 и т.д.

Сегодня кроме танков Т-72, на вооружении белорусской армии имеются также танки Т-55 и Т-80. Судьба последних весьма интересна и связана с желанием Беларуси в очередной раз заявить о себе на мировом рынке оружия. Так, в начале 90-х годов из Группы советских войск в Германии в Беларусь была выведена 11-я танковая дивизия Советской Армии, которая впоследствии стала 11-й отдельной механизированной бригадой вооруженных сил республики. Дислоцируется она в Слониме. На ее вооружении и находились танки Т-80. В настоящее время эти танки находятся на Центральной базе резерва танков в Уречье в Любанском районе Минской области и составляют так называемую "экспортную группу". Что касается дальнейшей судьбы машин, то, как отметил заместитель министра, "мы будем предлагать их на реализацию".

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

Газета Слонімская
30 верасня — 6 кастрычніка 1999г., № 40 (121)

# ГОРОСКОП

**с 30 сентября по 5 октября**

**ОВЕН**
Предстоит несколько поездок, которые, к сожалению, не принесут явного результата. Особого внимания потребуют в этот период дети и близкие родственники. У Овнов-мужчин возможно полное разочарование в брачном партнере.

**ТЕЛЕЦ**
Неделя новостей — они будут сыпаться на вас, как из рождественского мешка. Некий проект, задуманный давно, имеет все шансы сдвинуться с мертвой точки. За делами способны забыть о любимом, в результате — ссоры и непонимание.

**БЛИЗНЕЦЫ**
Все ваши желания на этой неделе удивительным образом будут сбываться. Так что если пока не определились, чего же вы хотите, быстренько придумайте. Дело за вами!

**РАК**
Деньги поступят из самого неожиданного источника. Предстоит деловая поездка, в которой однако будут решены не только производственные вопросы... Возможно интересное и перспективное в личном плане знакомство.

**ЛЕВ**
На вас свалится работы — воз и маленькая тележка. Придется забросить домашние дела и личную жизнь. Но ваша воля и энергия помогут справиться со всеми проблемами.

**ДЕВА**
Получение денег скорее всего — запланированное. А вот сюрприз, который вам готовят друзья и родственники — совершенно неожиданный. Возможна легкая осенняя депрессия или простуда. Одевайтесь теплее.

**ВЕСЫ**
В этот период вы окажетесь в близком кругу друзей на каком-нибудь пикнике или рыбалке. Не отказывайтесь от этой возможности, тем более что у вас есть шанс с совершенно неожиданной стороны узнать своего партнера.

**СКОРПИОН**
Вы явно переутомились и самое лучшее — не проявлять героизм на работе, а устроить себе передышку. Женщин-Скорпионов подстерегает роковая встреча.

**СТРЕЛЕЦ**
Вы будете энергичны и предприимчивы все дни. Воспользуйтесь моментом подъема и переделайте всю работу, которую откладывали на потом.

**КОЗЕРОГ**
Обострение хронических болячек, нелады с деловыми партнерами, неполучение ожидаемой прибыли. Но все это не более чем на одну-полторы недели. Потом все наладится.

**ВОДОЛЕЙ**
Как ни странно, но хмурые и осенние дни принесут вам не мало радости и удовольствия. Молодые Водолеи сумеют прекрасно совместить новое сердечное увлечение с активностью в работе.

**РЫБЫ**
Придется не мало тревожиться и переживать, тщательно скрывая свои чувства. Есть опасность травмы, расторжения деловых отношений, серьезных разногласий с партнерами. В общем — завершение некоего жизненного цикла.

# Пераможцы фотаконкурсу

**Фотаконкурс, які праводзілі "Газета Слонімская" і фірма "Кодак-Люкс", назваў сваіх пераможцаў.**

*Ірына Новік — пераможца фотаконкурсу ў намінацыі «Летняя прыгажуня»*

**У намінацыі "Мама, тата, я — дружная сям'я" прыз дастаўся навучэнцы Слонімскага медвучылішча Вользе Панашчык (яе здымак быў змешчаны № 35 "ГС").**

**Вучань 10 класа СШ №9 г. Слоніма Дзмітрый Мурашкін перамог у намінацыі "Мы адпачываем" ("ГС" № 28).**

**Летняй прыгажуняй журы аднагалосна назвала сланімчанку Ірыну Новік. Яна нядаўна закончыла Мінскі тэхналагічны ўніверсітэт, выйшла замуж і пераехала жыць у Салігорск. А фатаграфавала Ірыну яе сястра Алена Скакунова. Фотаздымак летняй прыгажуні быў змешчаны ў №34 "ГС". Усе пераможцы ад фірмы "Кодак-Люкс" атрымалі прызы.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*Вольга Панашчык, Дзмітрый Мурашкін, Алена Скакунова*

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Наталля Рэпніцкая
Аліна Максімава
Вікторыя Крушневіч
Алеся Абрамчык
Дар'я Блашко
Ілья Хрэшчык
Вольга Трацьяк
Карына Багдановіч
Вадзім Сяргей
Святаслаў Валынчык

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**

Ёрш Ірына і Літван Уладзімір
Мароз Алена і Лажэчнікаў Уладзімір
Серая Аксана і Шлыковіч Генадзь
Лішык Людміла і Барысік Анатоль
Барысік Ірына і Алісевіч Сяргей
Гадаваная Наталля і Ягаўдзік Ігар
Яварская Алена і Камар Сяргей

## Светлай памяці

✝

| | |
|---|---|
| **Бірук** Пётр Сяргеевіч | 1952 г.н. |
| **Тырля** Марыя Міхайлаўна | 1943 г.н. |
| **Цярэшка** Іван Сцяпанавіч | 1925 г.н. |
| **Дэйка** Паліна Валер'еўна | 1999 г.н. |
| **Лукашык** Генадзь Аляксандравіч | 1962 г.н. |
| **Кавалеўская** Анастасія Андронаўна | 1915 г.н. |
| **Сенажанская** Яўгенія Вікенцьеўна | 1930 г.н. |
| **Бушава** Наталля Ціханаўна | 1917 г.н. |
| **Мароз** Вера Іванаўна | 1911 г.н. |
| **Стулевіч** Мікалай Пятровіч | 1924 г.н. |
| **Грыцук** Расціслаў Іванавіч | 1933 г.н. |
| **Кароль** Аляксандр Іосіфавіч | 1910 г.н. |

ТЭСТ

## КОЛЬКІ ГАДОЎ ВАМ ЖЫЦЬ?

Гэта залежыць ад розных прычын, аднак не апошнюю ролю адыгрываюць і вашы звычкі. Тэст, які мы прапануем, складзены амерыканскімі медыкамі. Паспрабуйце даваць шчырыя адказы, над некаторымі пытаннямі сур'ёзна падумайце, магчыма, вам давядзецца змяніць спосаб свайго жыцця.

Возьмем лічбу 72. Няхай яна будзе сярэдняй працягласцю вашага жыцця. Ад вынікаў вашых адказаў да гэтай лічбы прыйдзецца дабавіць або адняць ачкі, якія сімвалізуюць гады.

Калі вы мужчына, адніміце ад 72 лічбу 3. Жанчынам трэба дадаць 4 да 72 — яны жывуць даўжэй за мужчын у сярэднім на 7 гадоў. Вынікае, што сярэдняя працягласць жыцця ў мужчын — 69 гадоў, у жанчын — 76.

**1**. Калі вы жывяце ў горадзе з насельніцтвам 1 млн. чалавек, то адніміце 2 гады.

**2**. Калі ў вас разумовая праца, адніміце яшчэ 3 гады.

**3**. Калі вы жывяце ў населеным пункце, дзе колькасць насельніцтва складае менш за 10000 чалавек, дадайце 2 гады.

**4**. Калі вы займаецеся спортам 5 разоў на тыдзень хаця б па паўгадзіны, то прыбаўце 4 гады, калі 2-3 — прыбаўце 2 гады.

**5**. Калі вы жанаты (замужам або збіраецеся ўступіць у шлюб), дабаўце 5 гадоў, калі не, тады адніміце па адным годзе за кожныя 10 гадоў халастога жыцця пачынаючы з 25-гадовага ўзросту.

**6**. Калі вы спіце ноччу больш за 10 гадзін, адніміце 4 гады, калі па 7-8 гадзін — не аднімайце нічога.

**7**. Калі вы дрэнна спіце, адніміце 3 гады. Вялікая стомленасць, як і вельмі працяглы сон, прыкмета дрэннага кровазвароту.

**8**. Калі вы нервовы і ўзбуджаны чалавек, адніміце 3 гады, калі ўраўнаважаны і спакойны — дадайце 3 гады.

Калі вы шчаслівы, тады дабаўце 1 год, калі не — адніміце 2 гады.

**9**. Калі вы маеце асабісты аўтамабіль і штодзённа парушаеце правілы дарожнага руху, адніміце 1 год.

**10**. Калі вам штодзень не хапае грошай і вы ўвесь час шукаеце, дзе б іх зарабіць, адніміце 2 гады.

**11**. Калі ў вас сярэдняя адукацыя дабаўце 1 год, калі вышэйшая — 2 гады.

**12**. Калі вы на пенсіі, але працягваеце працаваць, прыбаўце 3 гады.

**13**. Калі ваша бабуля ці дзядуля дажылі да 85 гадоў, то дабаўце 2 гады, калі двое дажылі да 80 гадоў, тады 4 гады, калі нехта з іх памёр, не дажыўшы да 50 гадоў з-за хваробы (інфаркт, інсульт, рак), адніміце 4 гады.

**14**. Калі вы выкурваеце больш за два пачкі цыгарэт у дзень, адніміце 8 гадоў, калі пачак — 6 гадоў, калі менш за пачак — 3 гады.

**15**. Калі кожны дзень выпіваеце хоць кроплю гарэлкі, адніміце год.

**16**. Калі вы мужчына, якому больш за 40 гадоў, аднак вы сочыце за сабой і праходзіце штогод прафілактычны агляд, дабаўце 2 гады.

**17**. Калі вам 30-40 гадоў, прыбаўце 2 гады, 40-50 — 3 гады, больш за 50 — 4 гады.

*Лічба, якая ў вас атрымаецца ў выніку падлікаў, і ёсць той узрост, да якога вы можаце дажыць. Аднак, калі вы будзеце сачыць за сабой і адмовіцеся ад шкодных звычак, яна можа быць значна вышэйшай. Вызначайце свой лёс самі.*

КРОССВОРД

*от Владимира ВАШУТЫ*

**Каждое слово имеет две соседние по алфавиту буквы. Например: Аббат, стратегия, балалайка.**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ.**

**2**. Предельные внешние очертания предметов. **6**. Работник, владеющий всеми специальностями в своей профессии. **9**. Устройство, установленный порядок. **13**. Сплетенные в кольцо листья, цветы. **16**. Ударный музыкальный инструмент. **17**. Птица семейства пастушковых. **18**. Комедия Р. Шеридана. **22**. То же, что и идол. **23**. Место, с которого производится взлет летательного аппарата. **24**. Правило, положение какого-либо учения, направления. **27**. Великий русский ученый и поэт. **30**. В древней Греции: собрание высших сановников.

**ПО ВЕРТИКАЛИ.**

**1**. Русский советский поэт. **2**. Помещение для сжатого хлеба. **5**. Армянский музыкальный инструмент, продольная свистковая флейта. **7**. В спорте — неправильно взятый старт. **8**. Совокупность пьес, идущих в театре. **9**. Австралийское млекопитающее. **11**. Груз, специально принимаемый на судно для улучшения его мореходных качеств, когда полезного груза для этой цели на судне недостаточно. **12**. Намеренный срыв работы. **15**. Устройство звуковой сигнализации в автомобиле. **20**. Млекопитающее подотряда полуобезьян, обитающее в лесах восточного Мадагаскара. **25**. Письменное уведомление полной готовности судна к погрузке или выгрузке. **26**. Ансамбль из девяти музыкантов.

**ПО ДУГАМ.**

**3**. Двучлен в математике. **4**. Недовольство, выражаемое негромкой речью, в неясной форме. **10**. Растение семейства сложноцветных со съедобными листьями. **14**. Пушной зверек с ценным мехом. **19**. Установленная мера, величина чего-нибудь. **21**. Наклонная поверхность. **28**. Большое стадо лошадей. **29**. Земельный участок, предоставляющийся в пользование крестьянину помещиком.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№39)**

**1**. Кобзарь. **2**. Зоопарк. **3**. Спа. **4**. Дза. **5**. Треугольник. **6**. Краснолесье. **7**. Булат. **8**. Аскет. **9**. Балет. **10**. Келья. **11**. Пьета. **12**. Синод. **13**. Отава. **14**. Колба. **15**. Аврал. **16**. Обрат. **17**. Майор. **18**. Панно. **19**. Пойма. **20**. Сноха. **21**. Амбар. **22**. Шхуна. **23**. Шасси. **24**. Юнкер. **25**. Ссуда. **26**. Шериф. **27**. Эдикт. **28**. Шифер. **29**. Якорь. **30**. Тенор. **31**. Фронт. **32**. Хомут. **33**. Унция. **34**. Турне. **35**. Пилот. **36**. Князь. **37**. Косяк. **38**. Озимь. **39**. Мятеж. **40**. Ямщик. **41**. Лемех. **42**. Бисер. **43**. Севастополь. **44**. Департамент. **45**. Карат. **46**. Паром. **47**. Гамма. **48**. Помпа. **49**. Индивид. **50**. Алфавит. **51**. Бич. **52**. Бас.

ФУТБОЛ. 1-я ЛІГА

# БАРАЦЬБА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

## "Камунальнік" (Слонім) — ЗЛіН (Гомель) — 2:0

**Слонім. 25 верасня. Стадыён "Юнацтва". 2500 гледачоў.**
**Суддзя Генадзь Звярок (Мінск).**
**Камунальнік: Кіркіж, Капельян (Аначанка, 75), В. Дзегіль, Баян (Селіванаў, 61), Дым, Пагоцкі, Карасёў, Савіцкі, Баль (к), Савань, Татарашвілі (Дубінін, 81).**
**Галы: Пагоцкі (48, з пенальці), Баль (68).**

Гледачы спадзяваліся ўбачыць цікавую і вострую гульню слонімскіх футбалістаў. Аднак у першым тайме іх спадзяванні аказаліся марнымі. Большасць слонімскіх атак гамяльчане спынялі яшчэ на подступах да штрафной пляцоўкі. Запомніліся толькі дальнія ўдары Мікалая Дыма ды індывідуальныя праходы Алега Баяна і Генадзя Карасёва. У некаторых эпізодах маглі вызначыцца госці, але ім не шанцавала.

У другім тайме пачала атрымоўвацца камбінацыйная гульня ў нашай паўабароны. Наперад пайшлі Аляксей Баль, Алег Савіцкі. Менавіта за знос Савіцкага ў штрафной пляцоўцы і быў прызначаны 11-метровы ўдар у вароты гасцей. Андрэй Пагоцкі не прамахнуўся. Гэты хуткі пасля перапынку гол натхніў "Камунальнік". Падчас адной з атак Аляксей Баль з вострага вугла "прабіў" варатара ЗЛіНа Аляксандра Кажэнава – 2:0. Дарэчы, Аляксей даўно ўжо не забіваў галоў.

Пасля другога прапушчанага мяча госці змірыліся з паражэннем. А "Камунальнік" мог забіць і яшчэ, але не ўсё атрымлівалася ў завяршэнні атак.

Наступную гульню слонімскі "Камунальнік" правядзе 3 кастрычніка ў гасцях з "Палессем" (Мазырскі раён). У гэтым туры "Граніт" на сваім полі будзе прымаць жодзінскае "Тарпеда", а "Ведрыч-97" – мінскую "Зорку-ВА-БДУ". Мастоўскі "Нёман" у Гомелі згуляе з мясцовым ЗЛіНам. Такім чынам, барацьба за дзве пуцёўкі ў вышэйшую лігу працягваецца. Нават светлагорскі "Камунальнік" яшчэ мае шансы пазмагацца за прызавыя месцы.

**Сяргей ЁРШ**



*Аляксей Баль*

### Вынікі астатніх матчаў тура:

| | |
|---|---|
| Пінск-900 — Орша | — 0:3 |
| Зорка-ВА-БДУ — Керамік | — 2:2 |
| Нёман — Ведрыч-97 | — 1:1 |
| Дынама-Юні — Палессе | — 3:1 |
| Камунальнік Св. — Вейна-Днепр | — 2:0 |
| Тарпеда — Віцьбіч-Дынама-Энерга | — 3:0 (неяўка гасцей) |
| Рагачоў — Граніт | — 0:1 |



Фота Мікалая СУПРУНА

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА пасля 25-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Ведрыч-97 | 25 | 13 | 9 | 3 | 45:27 | 48 |
| 2. Камунальнік (Сл.) | 25 | 14 | 5 | 6 | 47:23 | 47 |
| 3. Граніт | 25 | 13 | 8 | 4 | 41:19 | 47 |
| 4. Дынама-Юні | 25 | 13 | 6 | 6 | 41:30 | 45 |
| 5. Нёман | 25 | 12 | 8 | 5 | 43:27 | 44 |
| 6. Камунальнік (Св.) | 25 | 12 | 7 | 6 | 37:28 | 43 |
| 7. Тарпеда | 25 | 10 | 10 | 5 | 46:33 | 40 |
| 8. ЗЛіН | 25 | 9 | 7 | 9 | 34:24 | 34 |
| 9. Орша | 25 | 8 | 9 | 8 | 40:29 | 33 |
| 10. Рагачоў | 25 | 8 | 9 | 8 | 41:37 | 33 |
| 11. Керамік | 25 | 8 | 8 | 9 | 30:36 | 32 |
| 12. Палессе | 25 | 7 | 6 | 12 | 30:48 | 27 |
| 13. Пінск-900 | 25 | 5 | 6 | 14 | 27:44 | 21 |
| 14. Зорка-ВА-БДУ | 25 | 4 | 9 | 12 | 27:49 | 21 |
| 15. Вейна-Днепр | 24 | 4 | 7 | 13 | 23:45 | 19 |
| 16. Віцьбіч-Дынама | 24 | 0 | 4 | 20 | 22:75 | 4 |

сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга

ГІСТОРЫЯ СЛОНІМСКАГА СПОРТУ

# ФУТБОЛ У ПАСЛЯВАЕННЫМ АЛЬБЯРЦІНЕ

Гісторыя альбярцінскага футбола мае свае славутыя старонкі. Менавіта на аснове каманды кардонна-папяровага завода "Альбярцін" з часам узнік слонімскі "Камунальнік", які цяпер гуляе ў першай лізе чэмпіянату Беларусі. У пасляваенныя гады футбол у Альбярціне адрадзіўся ў 1947 годзе.

Ідэя стварэння сваёй каманды ўзнікла ў групы рабочых кардоннай фабрыкі "Альбярцін". Яны накіравалі да дырэктара фабрыкі Барыса Цвяткова дэлегацыю з трох чалавек, сярод якіх быў і яго сын Раман. Прапанавалі стварыць фабрычную футбольную каманду. Паслухаў іх дырэктар і гаворыць:

– Я з вамі згодны, што каманда патрэбна. Аднак, я вам на першы раз нічога не абяцаю. Але калі вы выйграеце першую гульню, тады забяспечу вас усім неабходным: формай, бутсамі...

Сабралася каманда. Пачалі шукаць саперніка. Прыехаць у Альбярцін згадзілася футбольная каманда вайсковай часці са Слоніма. Матч адбыўся ў выхадны дзень на стадыёне па Паркавай вуліцы (цяпер на яго месцы растуць дрэвы). Альбярцінскія футбалісты самыя паставілі на полі вароты, а трыбун не было. Шматлікія гледачы сядзелі ўпрост на зямлі. Тады амаль увесь Альбярцін сабраўся на футбольны матч! І не дарма, бо альбярцінскія футбалісты перамаглі. Для "Альбярціна" гэта была лёсавырашальная гульня. Атрымаўшы перамогу, футбалісты-рабочыя прадпрыемства заваявалі права на існаванне сваёй каманды.



*Барыс Цвяткоў*

Барыс Цвяткоў, як і абяцаў, узяў каманду пад сваю апеку. Ён, ленінградзец, быў вялікім аматарам футбола. Былыя футбалісты ўспамінаюць, што на матчах "Альбярціна" Цвяткоў звычайна стаяў за варотамі і вельмі перажываў за сваіх выхаванцаў. За гульню выпальваў пачку цыгарэт. Пасля матча Барыс Цвяткоў запрашаў ігракоў да сябе і яны разам абедалі. Кожнаму з іх дырэктар, як сапраўдны трэнер, тлумачыў, як трэба было гуляць у тым ці іншым эпізодзе. "Альбярцін" гуляў не толькі са слонімскімі камандамі, але выязджаў у Пінск, Бабруйск. На выязныя гульні ездзілі на машыне, якую адмыслова выдзяляў Цвяткоў. У Пінску альбярцінцы гулялі на Кубак папяровай прамысловасці. Там іх абыгралі...

Гулялі яшчэ з камандай Казлоўшчыны, у якой быў вельмі добры варатар (яго называлі "кошкай"). А вось у "Альбярціна" варатар быў слабаваты, у параўнанні з іграмі нападзення ці абароны. Нападаючымі былі маладыя хлопцы, але гулялі яны выдатна. У абароне стаялі Пугаўка, Анісімаў (ужо памерлі) і Аляксандр Мажэйка. Альбярцінскіх абаронцаў баяліся, асабліва Ані-сімава. Гаварылі тады пра яго, што "лепей на Анісімава з мячом не ісці. Ён не глядзіць куды б'е: па нагах ці па мячу"... Траўмаў хапала. Таму на кожнай гульні прысутнічаў доктар.

Аднойчы ў Слоніме праходзіла першынство калгасных камандаў па футболу. Прыехаў да Цвяткова іх прадстаўнік. Прасіў дапамагчы ігракамі, бо яны ехалі гуляць у Нясвіж. Цвяткоў даў згоду, і амаль дзесятак альбярцінцаў часова сталі "калгаснікамі" з Якімавіч, Чапялёва... У Нясвіжы яны выйгралі. Праўда, там давялося пагаладаць. Грошы за перамогу ім выплацілі толькі, калі яны вярнуліся ў Слонім.

У 1951 годзе не стала Барыса Цвяткова. Напэўна, тады спыніла існаванне і каманда "Альбярцін". Пазней яна адрадзілася, але гэта іншая гісторыя.

**Сяргей ЁРШ**

## Футбольны турнір выйгралі гродзенцы

**На Альбярцінскім стадыёне прайшоў традыцыйны дзіцячы футбольны турнір "Залатая восень".**

Спачатку каманды-удзельніцы былі разбіты на групы. У першай гулялі "Белкард" (Гродна), мастоўская ДЮСШ, "Марыя" і КДЮСШ-1 (Слонім), а ў другой – "Талент-Альбярцін" (Слонім), СДЮСШ-6 (Гродна), ДЮСШ (Берастаўіца) і ДЮСШ (Зэльва). У другой групе першае месца заняў "Талент-Альбярцін", які абыйшоў па розніцы забітых і прапушчаных мячоў гродзенцаў. У першай групе сітуацыя была падобнай. Пасля таго, як "Марыя" і "Белкард" згулялі ўнічыю 1:1, на першае месца па лепшай розніцы мячоў выйшла гродзенская каманда.

Такім чынам, за першае месца змагаліся "Талент-Альбярцін" і "Белкард". Усе галы былі забіты ў першым тайме. Спачатку двойчы вызначыліся госці, але яшчэ да перапынку слонімцы рэалізавалі пенальці. Калі ў першай палове гульні гродзенцы мелі ініцыятыву і больш небяспечна атакавалі, дык пасля перапынку гульня выраўнялася. Аднак слонімцы не змаглі зраўняць лік і прайгралі фінал.

За трэцяе месца гулялі "Марыя" і СДЮСШ-6. Футбалісты з Гродна вельмі хутка павялі ў ліку, забіўшы ўжо на дзесятай мінуце гол з пенальці. Яны гулялі ўпэўнена, кантралявалі мяч, але замацаваць перавагу не здолелі. "Марыя", якая да перапынку выглядала бездапаможна, у другім тайме перахапіла ініцыятыву. Дзякуючы некалькім заменам і перастаноўкам ігракоў на полі, слонімцам удалося наладзіць гульню ў сярэдзіне поля. "Марыя" мела два выдатных моманты для ўзяцця варот гасцей, але не пашанцавала. У выніку – паражэнне з мінімальным лікам і толькі чацвёртае месца.

Спонсарам турніру быў кардонна-папяровы завод "Альбярцін", які традыцыйна падтрымлівае дзіцячы футбол. Нядаўна гэтае прадпрыемства купіла для мясцовай спартыўнай школы бутсы і спартыўныя курткі.

**Алег ТАЧОНЫ**



Фота Мікалая СУПРУНА

*Момант гульні «Марыі» і СДЮСШ-6*

## АНЕКДОТЫ

***

Едет в автобусе девочка, входит бабуля и говорит:
-Девочка, а девочка, уступи мне место, а то у меня ноги болят.
Д.: - А ты когда маленькая была уступала место?
Б.:- Конечно уступала!
Д.:- Ну вот у тебя ноги и болят!

***

Дама средних лет и ее очаровательная дочь явились на прием к врачу.
- Раздевайтесь, мадемуазель! - приказывает доктор.
- Извините, - чопорно говорит дама, - но больна не она, а я.
- Да? Покажите язык!

***

В палату входит мужик в белом халате и спрашивает:
- Больной, ваш рост?
- Метр 60, доктор.
- Я не доктор, я плотник.

***

Приходит пациент к врачу.
- Доктор, у меня провалы в памяти!
- И часто у вас эти провалы?
- Какие провалы?
- В памяти!
- В какой памяти?

***

В классе все собираются на экскурсию на стройку. Учительница говорит:
- Дети, по стройке всегда надо ходить в каске. Вот я знаю одного мальчика, он шел по стройке, на него сверху упал кирпич, и его положили в больницу. А еще я знаю одну девочку: так она шла по стройке в каске, на нее упал кирпич, но она просто улыбнулась и пошла дальше.
Вовочка говорит:
- Я тоже знаю эту девочку - она живет в моем дворе. Она до сих пор ходит в каске и улыбается.

***

- Знаешь, милый, мне так бы хотелось купить машину. Ну хотя бы "Жигули". Повидали бы свет...
- Этот или тот?

***

Во время футбольного матча, на стадионе, жена спрашивает мужа:
- За что этого зрителя так ругают соседи?
- Он бросил бутылку в судью.
- Так ведь не попал!
- За то и ругают.

***

Муж возвращается с охоты:
- Ну, жена, теперь месяц мясо покупать не будем.
- Что, лося подстрелил?
- Нет, получку пропил.

***

Возвращаясь из гостей, жена говорит мужу:
- Мало того, что ты уснул, когда хозяйка пела арию из оперы, так ты еще и проснулся, когда она брала верхнее "СИ" и сказал: "Выпустите собаку".

***

- Я не был пьян, - оправдывается шофер перед судом. - Я только выпил.
- Это совсем другое дело, - сказал судья. - Вот почему я приговариваю вас не к 7 дням тюрьмы, а только на неделю.

***

Старожила, прожившего 180 лет, спрашивают:
-Как вам удалось столько прожить? Наверное, не пили, не курили, по женщинам не бегали?
-Да, и это тоже. Но главное - я опоздал на "Титаник"...